# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі
Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 11 (29) | 15-га Верасьня 1929 году | № 11 (29)

## ЗЬМЕСТ



Дадатак да п. 1/414. О пратаколу пасяджэньня Прэзыдыуму ад 26-VI-29 г., № 29.

## Пастанова прэзыдыуму ЦК саюзу сельгаслесрабочых СССР

### По дакладу Беларускага камітэту аб выкананьні дырэктыў партыі і пастаноў УсеЦСПС і ЦК саюзу аб рабоце сярод с.-г. і лясных рабочых

1) Заслухаўшы даклад старшыні Рэспубліканскага Камітэту т. Вайтэнкава і садаклад інструктара ЦК т. Дзедзяева аб выкананьні беларускай арганізацыяй саюзу дырэктыў партыі і УсеЦСПС і пастановы ЦК саюзу ад 17-га жніўня 1927 г. па пытаньню аб рабоце сярод с. г. і лясных рабочых. Прэзыдыум ЦК адзначае наступныя дасягненьні ў рабоце арганізацыі за справаздачны пэрыяд, а імена:

а) узмацненьне работы па падрыхтоўцы прафактыву;

б) павялічэньне колькасьці с. г. і лясных рабочых у выбарным складзе савецкіх органаў на вёсцы, побач з павялічэньнем колькасьці вылучаных у саюзныя, гаспадарчыя і інш. органы шляхам арганізацыі і правядзеньне адпаведных курсаў і г. д.;

в) выданьне газэты „Беларускі Батрак“;

г) узмацненьне падрыхтоўкі с. г. і лясных рабочых у навучальныя ўстановы (рабфакі, школы, курсы і г. д.);

д) рост перасовачных форм культабслугоўваньня членаў саюзу (кінотэатр) і рост колькасьці радыё-установак;

е) узмацненьне фінансавай дысцыпліны;

ж) некаторае павялічэньне ахопу працдагаворамі батрацтва і пастушэства;

з) ужываньне ў рабоце розных мэтадаў жывой сувязі з членамі саюзу.

Аднак, ня гледзячы на гэтыя дасягненьні і некаторае ажыўленьне за апошні час у працы Беларускай арганізацыі, прызнаць, што агульнае становішча яе яшчэ працягвае заставацца слабым. Прэзыдыум ЦК лічыць, што ва ўмовах Беларусі, як паграмічнай рэспублікі, ня маючай разьвітай індустрыі, асабліва значэньне мае ўзмацненьне і разьвіцьцё саўгаскага будаўніцтва, узмацненьне ў саўгасах кадраў с. г. рабочых і палепшаньне работы па арганізацыі с. г. і ляснога пралетарыяту.

Адзначаючы нездавальняючае выкананьне Беларускай арганізацыяй шэрагу важнейшых дырэктыў (напрыклад: аб узмацненьні працы па абароне батрацтва ў кулацкіх гаспадарках, аб уцягненьні рабочых у вытворчасьць праз вытворчыя нарады, аб ліквідацыі няпісьменнасьці і і н ш.), Прэзыдыум ЦК прапануе ўсім саюзным органам згрунтаваць увагу і сілы на правядзеньні ў жыцьцё дырэктыў ЦК саюзу.

2) Прэзыдыум ЦК асабліва адзначае нездавальняючае выкананьне пастаўленых перад арганізацыяй задач па ўзмацненьню росту саюзу.

Побач са слабасьцю росту саюзу, у асобных выпадках на лесараспрацоўках і сплаве дапушчана засоранасьць саюзу да 30 проц. асобамі, нямаючымі права быць у саюзе.

Прэзыдыум ЦК прапануе арганізацыі рашуча ўзмацніць работу па ўцягненьню ў саюз батрацтва, а таксама рабочых лесараспрацовак, сплаву, торфараспрацовак і мэліарацыі, ахапіўшы саюзам у працягу бліжэйшых 2-х год большасьць работаючых па найму, маючых права быць у саюзе.

3) Прэзыдыум ЦК адзначае надзвычайна слабае правядзеньне ў 1928 г. працдагаворнай кампаніі, выразіўшаеся ў наступным: абарона працы ў кулацкіх гаспадарках праходзіла, галоўным чынам, на аснове „Часовых Правіл“, само батрацтва ў г э т а й кампаніі ня ўдзельнічала, падыход пры заключэньні дагавораў быў мэханічны і зарплата ў кулацкіх гаспадарках, перавышала ў сярэднім толькі на 1-2 рублі зарплату ў гаспадарках ужываючых наёмную рабочую сілу на аснове „Часовых Правіл“.

Спазьніўшаеся выданьне ўрадам БССР пастановы аб адзнаках гаспадарак, не падпадаючых пад дзейнасьць „Часовых Правіл“. таксама затрудняла работу саюзу па абароне батрацтва ў кулацкіх гаспадарках.

Дырэктывы аб узмацненьні абароны батрацтва і ў сувязі з гэтым работа па наступу на кулака ў гэтым годзе слаба праводзяцца ў жыцьцё.

Дырэктыва аб практычных мерапрыемствах па палепшаньню матар'яльна-бытавых умоў і аховы працы малалетніх батракоў і пастухоў засталася нявыкананай.

Прэзыдыум ЦК прапануе ўсім саюзным органам Беларускай арганізацыі прыняць меры да хутчэйшага зьнішчэньня ўсіх адзначаных вышэй недахопаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на абарону батракоў у кулацкіх гаспадарках, шляхам жорсткага правядзеньня ў іх Кодэксу Законаў аб Працы, згодна пастановы ураду ад 20/II-1929 г., і на абарону малалетніх батракоў і пастухоў.

Прэзыдыум ЦК зварочвае асаблівую ўвагу на неабходнасьць мабілізацыі пралетарскіх і паўпралетарскіх мас вёскі ў наступу на кулака шляхам дапасаваньня ў кулацкіх гаспадарках стачак, байкотаў, зговараў і г. д., як найбольш рэальных мер узьдзейнічаньня. Гэтыя меры ўзьдзейнічаньня на кулака трэба праводзіць з поўным вучотам усіх магчымасьцяў мясцовых умоў.

У часле іншых мерапрыемстваў па абароне батрацтва неабходна таксама праводзіць сыстэматычную праверку выкананьня дагавораў праз адпаведныя органы, палепшаньне работы нарсудоў па абароне батрацтва, а таксама барацьбу з імкненьнем кулацтва перайсьці на наём толькі падзённай рабочай сілы.

4) Адзначаючы слабую работу вытворчых нарад і выкананьне як саюзам, так і госорганам, у асобе Белсельтрэсту, дырэктыў аб скліканьні вытворчых канфэрэнцый, з удзелам ў іх вытворчага актыву рабочых, Прэзыдыум ЦК ставіць перад усімі саюзнымі органамі (пачынаючы ад рэспубліканскага камітэту) і рабочай масай на бліжэйшы пэрыяд часу задачу ўзмацненьня ўвагі да справы будаўніцтва новых саўгасаў, да узмацненьня і разьвіцьця старых саўгасаў, прыцягненьню рабочых да актыўнага ўдзелу ў вытворчасьці праз вытворчыя нарады. Падняцьцю вытворчасьці працы, узмацненьню працоўнай дысцыпліны, максымальнаму пераходу на зьдзельшчыну і г. д.

Неабходна ўзмацніць нагляд за правядзеньнем у жыцьцё пастановы ўраду аб узмацненьні старых саўгасаў.

Неабходна таксама павесьці рашучую барацьбу з маючыміся ў саўгасах ненармальнымі бытавымі ўмовамі (неупарадкаванасьць выкарыстаньня жыл-

плошчы, спазьненьне выдачы спэцвопраткі і г. д.), дабіваючыся ў першую чаргу правядзеньня раду мерапрыемстваў, палепшаючых бытавыя ўмовы і не патрабуючых вялікіх затрат з боку гаспадарак.

Прапанаваць Рэсп. Камітэту намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па ўцягненьню шырокіх мас рабочых і спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі ў сацыялістычнае спаборніцтва, забясьпечыўшы кіраўніцтва спаборніцтвам ня толькі шляхам дырэктыў, абежнікаў і г. д. але, галоўным чынам, шляхам жывога інструктаваньня з боку саюзных органаў.

5) Адзначаючы слабасьць удзелу саюзу ў мерапрыемствах па мэліярацыі, па барацьбе з расьцягам лясоў, дасягаючым вялізарных разьмераў (на суму вышэй 2 мільлёнаў рублёў ў год), Прэзыдыум ЦК прапануе к гэтым пытаньням мабілізаваць ўвагу ўсіх саюзных органаў і масы саміх членаў саюзу праз вытворчыя нарады.

6) Адзначаючы слабую работу па каапэраваньню с. г. і лясных рабочых, асабліва батрацтва, прапанаваць Рэсп. К-ту, сумесна з органамі каапэрацыі, дабіцца пералому ў гэтай рабоце з тым, каб у працягу гэтага-ж году, ня менш паловы батрацтва было ахоплена спажывецкай каапэрацыяй.

7) Зварочваючы ўвагу арганізацыі на поўнаю адсутнасьць работы па ўцягненьню батрацтва ў калгасы, прапанаваць Рэспуб. К-ту мабілізаваць к гэтаму пытаньню ўвагу ўсёй саюзнай масы і савецкіх і грамадзкіх арганізацый, а таксама намеціць упаўне канкрэтныя мерапрыемствы, забясьпечваючыя для батракоў магчымасьць уступаць у калгасы.

Лічучы, што заданьне Цустраха па сац. страхаваньню батрацтва ў 1928 г. выканана мясцовымі страхавымі органамі зусім нездавальняюча і адзначаючы, што саюзныя органы слаба рэагавалі на гэта, даручыць Рэсп. К-ту працягнуць увагу ўсіх саюзных органаў да гэтага пытаньня, маючы на ўвазе, у першую чаргу, шырокую папулярызацыю закону аб сацстрахаваньні сярод батрацтва, а таксама рашуча дабіваючыся аказаньня больш шырокай дапамогі застрахаваным у адпаведнасьці з апошнімі ўказаньнямі Цустраха і ЦК саюзу.

9) Улічваючы слабасьць работы і надзвычайную недастатковасьць чысла с. г. інспэктараў працы, даручыць Рэсп. К ту дабіцца ад адпаведных органаў падвоеньня чысла іх, у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 23/III-1929г. зьвярнуўшы ўвагу на падбор с. г. інспэктараў працы выключна з асяродку с. г. і лясных рабочых і работніц.

10) Адзначаючы, што прынцыпы апошняй рэарганізацыі саюзных органаў ня былі прапрацаваны сярод шырокіх мас членаў саюзу, ня былі таксама ўзгоднены і зацьверджаны ЦК саюзу і мясцовымі кіруючымі органамі, лічыць недапусьцімым у далейшым правядзеньне ў жыцьцё явачным парадкам такіх важнейшых мерапремстваў.

Маючы на ўвазе, што некаторыя акруговыя інструктары, работаючыя ў раёнах, прабавалі ўзяць на сябе работу саюзнага органу ў раёне, прапанаваць Рэспубліканскаму Камітэту не дапушчаць гэткіх зьявішч.

11) Адзначаючы невыкананьне дырэктыў ЦК—аб узмацненьні кас узаемадапамогі, прапанаваць Рэсп. К-ту правесьці спэцыяльны агляд дзейнасьці КУ і выпрацаваць мерапрыемствы па іх аздараўленьню і узмацненьню.

12) Лічыць слабым выкананьне дырэктыў ЦК—па рабоце сярод спэцыялістых (адставаньне зарплаты ад сярэдняй па РСФСР, недастатковае забясьпечаньне спэцыялістых, работаючых на вучастках, кватэрамі і сродкамі перасоўкі, недастатковае абсталяваньне габінэтаў на вучастках, слабае кіраўніцтва сэкцыямі спэцыялістых з боку Рэспубліканскага і акруговых камітэтаў, недастатковы ўдзел сэкцый у вытворча-эканамічнай рабоце гасорганаў), Прэзыдыум ЦК прапануе:

а) узмацніць работу па далейшаму палепшаньню матар'яльна-бытавога становішча спэцыялістых і ўтачненьню іх службовых абавязкаў, дабіваючыся для спэцыялістых БССР такіх жа ўмоў, якія ўстаноўлены для спэцыялістых РСФСР,

б) зьвярнуць больш увагі рабоце Дому Спэцыялістых і ўзмацніць кіраўніцтва вытворча-эканамічнай работай сэкцый;

в) дабіцца больш актыўнага ўдзелу сэкцый ва ўсёй саюзнай працы і больш

уважлівых адносін да работы сэкцый з боку акруговых камітэтаў.

13) Прапанаваць Рэспубліканскаму К-ту асабліва сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на пастаноўку саюзнай работы ў пагранічных раёнах.

14) Адзначаючы, што масавая работа, асабліва сярод батрацтва, надзвычайна слабая і не дапамагае арганізацыі самакрытыкі сярод рабочых мас, прапанаваць Рэспубліканскаму Камітэту палепшыць і ўзмацніць гэту работу, устанавіць строгую адказнасьць асоб і органаў за становішча яе, каб выканаць задачу саюзных органаў як арганізатараў у справе разьвіцьця самакрытыкі.

15) Адзначаючы надзвычайна слабае выкананьне дырэктыў ЦК і слабую работу з боку органаў палітасьветы па падняцьцю культурнага ўзроўню с. г. і лясных рабочых, у асаблівасьці па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод іх, прапанаваць Рэсп. К-ту усямерна ўзмацніць гэту работу. сыстэматычна правяраючы становішча гэтай работы. Дабівацца ўзмацненьня абслугоўваньня батрацтва з боку хат-чытален Палітасьветы.

16) Адзначыць слабае выкананьне дырэктыў аб узмацненьні падпіскі на саюзны друк (газэту „Батрак", часопісь „Батрачка" і г. д.), так як за апошні час падпіска на гэтыя выданьні нават паніжаецца.

17) Прапанаваць Рэспубл. К-ту і Культаддзелу ЦК, пачынаючы з бягучага году, тэрмін работы прафкурсаў устанавіць 6 месячны з тым, каб гэтыя курсы былі стала дзейнічаючымі. Лічыць неабходным правесьці спэцыяльны набор курсаў для падрыхтоўкі работнікаў у лесарабачкомах.

18) Палепшыць утрыманьне нацыянальнай газэты „Беларускі Батрак" і ўзмацніць яе працаўнікамі. Лічыць, што побач з падтрыманьнем з боку ЦК саюзу для газэты „Беларускі Батрак" і для ўзмацненьня масавай культурна-асьветнай работы, неабходна аказаньне сыстэматычнай дапамогі таксама з боку мясцовых аранізацый. Рэсп. К-ту ў гэтым напрамку неабходна праявіць больш настойлівасьці перад мясцовымі арганізацыямі.

19) Зьвярнуць увагу на неабходнасьць правядзеньня шэрагу мерапрыемстваў па ўзмацненьню дапамогі парторганам у справе вярбоўкі с. г. і лясных рабочых у партыю.

20) Дабіцца правядзеньня ў жыцьцё рашэньняў кіруючых органаў Беларусі у сувязі з гэтым абглядам становішча і работы Беларускай саюзнай арганізацыі.

21) Адзначаючы слабасьць кіраўніцтва саюзнай арганізацыяй з боку ЦСПСБ і адсутнасьць дапамогі з боку апошняга ў рабоце арганізацыі, прасіць ЎсеЦСПС даць указаньні ЦСПСБ аб неабходнасьці палепшаньня кіраўніцтва і аказаньня практычнай дапамогі і падтрыманьня ў рабоце саюзнай арганізацыі.

З аргіналам згодна:
Кіраўнік спраў ЦП **Юшкевіч**.

## Пастанова Прэзыдыуму ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых

**(апросам ад 2/IX 1929 г.).**

*Па рэзалюцыі Ц. К. Саюзу*

Пастаўленыя задачы Цэнтральным Камітэтам нашага саюзу перад нашай Беларускай арганізацыяй у час шырокай сацыялістычнай перабудовы сельскай і лясной гаспадаркі і абвастрэньня ў зьвязку з гэтым клясавай барацьбы на вёсцы, патрабуюць ад Цэнтральнага Праўленьня, Акруговых Адзяленьняў, рабачкомаў і ад кожнага члена нашага саюзу вялікай напруджанай працы, высокай клясавай сьвядомасьці і цьвёрдай палітычнай вытрыманасьці, каб ня толькі зразумець сэнс гэтай, пастановы але каб на справе, як мага хутчэй правесьці у жыцьцё пастанову ЦК.

Для гэтага патрэбны больш шпаркія тэмпы ў штодзённай працы. Пастанова ЦК саюзу павінна стаць пераломным момантам у бок значнага палепшаньня наогул усёй нашай працы.

Тэмп працы трэба узяць такі, каб саюз заўсёды быў на чале правадзімых мерапрыёмстваў па рэканструкцыі сельскай і лясной гаспадаркі, рацыяналізацыі і інш., каб саюз быў са праўдным арганізатарам пралетарскай і паўпрале-

тарскай масы ў клясавай барацьбе на вёсцы. Кожны член саюзу павінен ведаць пастановы ЦК.

Усе пункты пастановы ЦК павінны быць выкананы.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦП саюзу прапануе:

1) Усім аддзелам ЦП Саюзу скласьці пляны па выканьню пастановы Прэзыдыуму ЦК саюзу.

2) усім Акраддзяленьням саюзу шырока абгаварыць на пасяджэньні сваіх прэзыдыумаў і пленумаў пастанову ЦК і намеціць шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню гэтай пастановы.

3) Усім рабачкомам (па атрыманьні газэты „Бел. Батрак“, дзе будзе зьмешчана пастанова ЦК), не чакаючы асобных указаньняў Акрадзяленьня саюзу, зараз жа прыступіць да абгаварэньня на пасяджэньнях рабачкомаў пастановы ЦК па нашаму дакладу і намеціўшы шэраг мерапрыемстваў, прыстасоўваючыся да мясцовых умоў сваёй працы, —вынесьці яе на абгаварэньне агульных сходаў рабочых.

4) Даручыць газэце „Бел. Батрак“ апублікаваць пастанову ЦК у наступным нумары газэты. Рабачкомам па атрыманьні гэтага нумару—зьмясьціць тэкст пастановы ў сваіх насьценных газэтах.

Прэзыдыум ЦП саюзу зьвяртаецца да усіх рабкораў газэты „Бел. Батрак“ рабочых і рабачкомаў асьвятляць на старонках газэты „Бел. Батрак“ як практычна выконваюцца ў жыцьці нашай арганізацыі намечаныя мерапрыемствы па ажыцьцяўленьню пастановы Прэзыдыумау ЦК саюзу.

Прэзыдыум ЦП саюзу зьвяртаецца да ўсіх членаў саюзу, дружна, калектыўна выканаць пастанову Прэзыдыуму ЦК.

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### Пра ўзмацненьне старых савецких гаспадарак

1. Выслухаўшы даклад Народнага Камісарыяту Земляробства і заключэньне Дзяржпляну пра мерапрыемствы па ўзмацненьню старых савецкіх гаспадарак, Савет Народных Камісараў адзначае, што некаторыя саўгасы маюць значныя дасягненьні ў галіне жывёлагадоўлі (высокія гадавыя ўдоі), палявой гаспадаркі (павышэньне ўраджаю), лугаводзтва і г д. Аднак, побач з шэрагам дасягненьняў у разьвіцьці савецкіх гаспадарак БССР, яны маюць шэраг нязьнішчаных яшчэ да гэтага часу недахопаў, з якіх галоўнымі зьяўляюцца наступныя:

1) малая зямельная плошча саўгасаў БССР, што пазбаўляе іх тых карысных бакоў, якія маюць буйныя гаспадаркі.

2) Недахоп асноўных сродкаў вытворчасьці, асабліва прадукцыйнай жывёлы і грашовых зваротных сродкаў.

3) Перагружанасьць тэхнічна-заводзкіх прадпрыемстваў па перапрацоўцы сырцу і слабы тэмп разьвіцьця іх у сыстэме сельскай гаспадаркі.

4) Зусім недастатковая мэханізацыя палявой гаспадаркі, у якой ужываецца стары с.-г., інвэнтар, разьлічаны на конную цягу і адсутнасьць мэханізацыі ў галіне лугавой гаспадаркі і абслугоўваньня жывёлагадоўлі.

5) Нізкі ўзровень палявой тэхнікі, незабясьпечанасьць паляводзтва ўгнаеньнямі, значная плошча слаба скарыстоўваемых зямель і малая ўраджайнасьць палёў.

6) Нязначная колькасьць статкаў буйнай рагатай жывёлы са значным процантам між імі мала прадукцыйнай жывёлы, якая не аплачвае корму, нізкая тэхніка жывёлагадоўлі, незабясьпечанасьць яе моцнымі кармамі і як вынік гэтага, нізкая прадукцыйнасьць жывёлагадоўлі савецкіх гаспадарак.

7) Нерацыянальнасьць пастаноўкі гародніцтва, што выяўляецца ў спажывецкім характары гарадоў і адсутнасьць арганізацыі буйных прамысловых гарадоў.

8) Недастатковае правядзеньне жыліштнага будаўніцтва, што ўскладняе ўкамплектаваньне саўгасаў кадрамі сталых рабочых, несваечасовае фінансаваньне, слабая плянавасьць будаўніцтва, слабы тэхнічны нагляд і слабая пастаноўка справаздачнасьці і падліку маемасьці саўгасаў.

9) Адсутнасьць сыстэматычнай працы па падвышэньню прадукцыйнасьці працы, і яе рацыяналізацыі, па падвышэньню кваліфікацыі сталых кадраў рабочых, вынікам чаго зьяўляецца ўсё яшчэ слабы рост прадукцыйнасьці працы.

10) Нездавальняючая кваліфікацыя адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу і значная цякучасьць кіраўнікоў савецкіх гаспадарак.

11) Усё яшчэ слабае правядзеньне саўгасамі агрыкультурнай працы вакольнага насельніцтва і працы па садзейнічаньню калектывізацыі і вытворчаму капэраваньню сялянскіх гаспадарак.

12) Дзякуючы нізкаму росту вытворчасьці ўсіх галін савецкіх гаспадарак, наглядаецца высокі сабекошт прадукцыі і стратнасьць значнага ліку гаспадарак.

13) Недастатковае скарыстоўваньне памяшканьняў, прызначаных для адкорму жывёлы і нескарыстоўваньне адходаў прадпрыемстваў для корму жывёлы.

II. З мэтаю ўзмацненьня савецкіх гаспадарак БССР і ператварэньня іх у аграіндустрыяльныя цэнтры буйнай абагуленай сельскай гаспадаркі, якія сапраўдна былі-б крыніцамі масавай і якасна высокай с. г. прадукцыі і рассаднікамі с.-г культуры, Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Беларускаму Сельска-Гаспадарчаму Трэсту правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Катэгарычна забараніць зямельным органам абрэзку зямельнай плошчы савецкіх гаспадарак, у якой бы ня было форме і неадкладна ў плянавым парадку прыступіць да ўзбуйненьня савецкіх гаспадарак:

а) праз перадачу ім сумежных плошчаў дзяржаўнага запаснага земфонду;

б) праз прырэзку да саўгасаў прылягаючых плошчаў лясного фонду, калі гэтыя плошчы ўладаюць дастатковаю колькасьцю ўраджайнасьці глебы, але, маюць рэдкія або малакаштоўныя лясныя пасадкі;

в) праз аб'яднаньне сумежных савецкіх гаспадарак у адну зямельную тэрыторыю:

г) праз далучэньне да саўгасаў сумежных сялянскіх зямель у выпадку згоды землякарыстальнікаў да перасяленьня ў іншыя раёны БССР ці СССР.

2. Пры земляўпарадкаваньні паселішчаў і саўгасаў паставіць мэтаю ўтварэньне найбольш мэтазгоднай конфігурацыі зямельняй тэрыторыі саўгасаў праз абмер зямель з вакольным насельніцтвам.

3. Усе бросавыя нескарыстоўваемыя землі саўгасаў, раскінутыя на мінэральных глебах перарабіць у пахаць, а забалочаныя торпавыя землі маэліраваць і шырока разгарнуць на іх культуртэхнічныя работы па ўтварэньню інтэнсыўных сенажацяй і папасаў, пачаўшы неадкладна адпаведныя вышукальныя работы і складаньне мэліарацыйных плянаў.

4. З прычыны збытковай вільготнасьці пахатных угодзяў, якое перашкаджае падвышэньне ўраджайнасьці і ўвядзеньню інтэнсыўнай с.-г. культуры, высьвятліць, у якіх саўгасах пахаць патрабуе палявога дрэнажу, асабліва ў поўночна-усходняй частцы БССР, правесці ў іх з зімы бягучага году неабходныя вышуканьні і скласьці для гэтых саўгасаў дэталёвыя праекты асушкі да 1/X—1930 г., унёсшы ў каштарыс 1929-30 г. патрэбныя для мэліарацыйных работ крэдыты па дзяржаўнаму бюджэту. З мэтаю забясьпячэньня дрэнажных работ патрэбнымі матарыяламі, арганізаваць вытворчасьць дрэнажных труб і спэцыяльных шанцавых прыладаў, разгарнуўшы з вясны 1930 году вытворчасьць дрэнажных труб у разьмерах, дастатковых для асушваньня што год 1500 гэктараў пахаці.

5. Даручыць Белсельтрэсту да 1/1-1931 году пераглядзець, у зьвязку з узбуйненьнем зямельнай тэрыторыі, існуючую арганізацыю саўгасаў, прыступіўшы неадкладна да складаньня рэканструкцыйных плянаў як у напрамку стварэньня рэнтабельных камплексных арганізацыйных тыпаў, так і ў напрамку арганізацыі спэцыялізаваных саўгасаў, утварыўшы дзеля гэтага ў апараце Белсельтрэсту групы спэцыялістаў па арганізацыі савецкіх гаспадарак.

6. Узмацненьне савецкіх гаспадарак БССР правесьці на грунце разьвіц ця у іх с.-х. індустрыі, дзеля чаго напрацягу бліжэйшых год у сыстэматычным пляна-

вым парадку ўтварыць пры саўгасах сетку тэхнічна-завадзкіх прадпрыемстваў па перапрацоўцы малочных прадуктаў, бульбы, гародніны, валакністых расьлін з тым, каб да 1932-33 году трэставаныя саўгасы былі поўнасьцю ахоплены індустрыялізацыяй.

7. Па лініі індустрыялізацыі савецкіх гаспадарак прыступіць да будаўніцтва тэхнічна-завадзкіх прадпрыемстваў. Гэтыя прадпрыемствы павінны быць разьлічаны на перапрацоўку ўласнага сырцу саўгасаў, а таксама і сырцу вакольнага насельніцтва з тым, каб пры разьліках сырцу апошняга прымалі абавязкова пад увагу інтарэсы разьвіцьця знаходзячыхся блізка прадпрыемстваў калгасаў і с.-г. каапэрацыі.

УВАГА. З мэтаю разьвіцьця малочнай прамысловасьці саўгасаў, устанавіць парадак, пры якім арганізацыі і паасобныя сялянскія гаспадаркі, якія дастаўляюць у саўгасы на перапрацоўку малочныя прадукты, былі б забясьпечаны моцнымі кармамі праз малочна-жывёлагадоўчы саюз на аднолькавых умовах з насельніцтвам, якое здае малако ў каапэрацыю.

8. З мэтаю большай мэханізацыі с.-г. вытворчасьці, будаўніцтва тэхнічна-завадзкіх прадпрыемстваў зьвязаць з электрыфікацыяй саўгасаў і акаляючых населяных пунктаў, а таксама, незалежна ад новага будаўніцтва с.-г. прадпрыемстваў, пашырыць электрыфікацыю саўгасаў, дзе ёсьць адпаведныя сілавыя ўстаноўкі, выкарыстоўваючы электра-энэргію ў першую чаргу для замены ручной працы электроматорамі ў працы па жывёлагадоўлі і малочнай гаспадарцы.

9. Пераглядзець с к л а д мёртвага інвэнтару адносна колькасьці і якасьці яго ў напрамку больш энэргічнай замены коннага, слаба вытворчага інвэнтару новымі канструкцыямі машын і прыладаў, разьлічаных на мэханічную цягу.

10. Узмацніць тэмп трактарызацыі саўгасаў, для чаго ўзьняць перад Саюзным Урадам хадайніцтва аб водпуску ў 1929/30 г. спэцыяльна для старых гаспадарак Белсельтрэсту 100 трактараў з адпаведным камплектам трактарнага інвэнтару:

11. Пры трактарызацыі саўгасаў арганізаваць з 1929 году ня менш 10 трактарных к а л ё н, якія павінны будуць абслугоўваць, побач з саўгасамі, разьмешчаныя каля яго калгасы і сялянскія гаспадаркі.

12 Маючы на ўвазе, што ўзмацненьне старых савецкіх гаспадарак ва ўмовах БССР у значнай меры залежыць ад разьвіцьця прадукцыйнай малочнай жывёлагадоўлі—павялічыць колькасьць статку буйнай рагатай жывёлы да канца 1929/30 году да 15 тыс. кароў і закупіць, шляхам кантрактацыі, да 1932/33 г. —1000 галоў племяннога маладняку.

13. У адпаведнасьці з узбуйненьнем зямельнай тэрыторыі саўгасаў перайсьці да арганізацыі буйных малочных фэрм з утрыманьнем у аднэй гаспадарцы да 1000 галоў дойных кароў, з арганізацыяй мэханізаваных масларобчых заводаў, ужываньнем электрамэханічных прыладаў па загатоўцы транспорту і раздачы харчу, даеньню і ўходу за жывёлай.

14. У мэтах забясьпечаньня малочнае жывёлагадоўлі кармамі прыняць рашучыя захады да арганізацыі кармавое базы, для чаго прадугледзіць у вытворчым пляне на 1929/30 г. паверхоўнае і грунтоўнае палепшаньне ня менш 30 проц. выганаў і 20 проц. сенажацяй саўгасаў, пашырыць у савецкіх гаспадарках у 1929/30 г. плошчу пад кармавымі кораньплодамі; пашырыць сіласнае будаўніцтва і адпаведна з гэтым павялічыць плошчу засеву кармавых траў на палёх за кошт скарачэньня вольных папараў.

15. Пачынаючы з 1929/30 г. зьнішчыць перабоі ў забясьпечаньні саўгасаў моцнымі кармамі, дзеля чаго абавязаць НК Г а н д л ю забясьпечваць саўгасы гэтымі кармамі, не дапушчаючы перапынку ў забясьпечаньні ў летні сэзон.

16. Для падвышэньня ўраджайнасьці ўсіх палявых культур:

а) павялічыць балянс ўгнаеньня і рацыяналізаваць захаваньне гною, дзеля чаго з 1929/30 г. усім саўгасам, каля

якіх ёсьць блізка тарпянікі, рашуча распачаць распрацоўку торпу на падсьціл;

б) пашырыць плошчу пад сідэрацыйнымі расьлінамі, у паасобку пад лубінам на зялёнае ўгнаеньне;

в) максымальна разгарнуць па ўсей сетцы саўгасаў закладку кампостаў, утылізацыю праз кампаставаньне, хатніх і сядзібных адкідаў і старанны збор попелу;

г) забясьпечыць саўгасы поўнасьцю мінэральнымі ўгнаеньнямі, дзеля чаго запрапанаваць Белсельтрэсту арганізаваць для саўгасаў здабычу вапны і мінэральных угнаеньняў, а дастаўляючым арганізацыям запрапанаваць задавальняць саўгасы ў першую чаргу;

д) ў 1929/30 г. увесьці на 100 проц. заворку на зяб, ужываць на засеў выключна ачышчанае і адсартаванае насеньне, замяніўшы на працягу 2-х гадоў звычайнае насеньне на сэлекцыйнае.

17. Давесьці гароднюю плошчу саўгасаў, знаходзячыхся блізка гарадоў і рабочых цэнтраў, да 1932/33 г. ня менш, як да 1000 гкт., надаўшы ў далейшым арганізацыі гародніцтва прамысловы напрамак, для забясьпечаньня гарадзкіх цэнтраў патрэбнаю колькасьцю гародніны, арганізаваўшы збыт яе на аснове кантрактацыі.

18. Даручыць НКЗ і Белсельтрэсту разглядзець пытаньне па рацыяналізацыі пастаноўкі ў саўгасах фінансавай і вытворчай справаздачнасьці.

19. Пры бліжэйшым удзеле ЦП Саюзу с. г. і лясных рабочых рашуча ўзмацніць сыстэматычную працу па рацыялалізацыі працы ў саўгасах, падвышэньню прадукцыйнасьці працы праз належную падрыхтоўку вытворчых нарад, праз унядрэньне ў практыку сацыялістычнага спаборніцтва паміж паасобнымі саўгасамі, больш шырокае ўжываньне індывідуальнага і групавога прэміраваньня, пашырэньне зьдзельных работ і перагляд нагрузкі сталага штатнага пэрсаналу.

Для дасягненьня найлепшых вынікаў працы саўгасаў шырока практыкаваць мэтад сацыялістычнага спаборніцтва, даручыўшы Белсельтрэсту прымаць больш актыўны ўдзел у канкрэтызацыі мерапрыемстваў па правядзеньню сацыялістычнага спаборніцтва паміж саўгасамі.

20. Адначасна ўжыць захады да стварэньня сталага кадру рабочых, да падвышэньня яго вытворчай кваліфікацыі, да павялічэньня зарплаты у адпаведнасьці з ростам прадукцыйнасьці працы і агульна-эканамічным становішчам гаспадарак; урэгуляваць жылішчнае пытаньне ў саўгасах, забясьпечыўшы рабочых у самы бліжэйшы час кватэрамі, адпавядаючымі запатрабаваньням гігіены і папяшканьнямі для грамадзкай і культурна-асьветнай працы, для чаго прадуглезіць у каштарысах, пачынаючы з 1929/30 г. неабходныя крэдыты па капітальнаму будаўніцтву.

21. Белсельтрэсту разам з ЦП Саюзу с. г. і лясных рабочых распрацаваць сыстэму мерапрыемстваў па ліквідацыі цякучасьці адміністрацыйнага пэрсаналу калгасаў, па ўкамплектаваньню саўгасаў вопытнымі і кваліфікаванымі кіруючымі кадрамі, па ўтварэньню для іх нармальных умоў працы з тым, каб асобы кіруючага агратэхнічнага і гаспадарчага пэрсаналу працавалі ў даным саўгасе ня менш 3-х гадоў.

22. Лічыць патрэбным каб мясцовыя савецкія органы ўзмацнілі нагляд і кантроль за работаю саўгасаў і праверкаю намечаных плянаў дзейнасьці адначасова не дапушчаючы апэрацыйнага умешваньня ў пляны работ саўгасаў.

23. Запрапанаваць Наркамзему, Белсельтрэсту забясьпечыць своечасовае складаньне, на падставе гэтай пастановы, прамфінплянаў саўгасаў на 1929-30 г.

Прыняць да ведама заяву НК Земляробства, што прамфінплян саўгасаў на 1929-30 г. будзе пададзены на зацьверджаньне СНК праз Дзяржплян не пазьней 1-га кастрычніка г. г.

24. Запрапанаваць Наркамфіну і Наркамзему падаць да 1/X-г. г. на зацьверджаньне ЭКАНА праект разьмеркаваньня запазычанасьці Белсельтрэсту па асыгнаваньнях, выдадзеных з дзяржаўнага бюджэту і сродкаў с.-г. сыстэмы, на зваротныя і беззваротныя, а таксама праект пастановы ЭКАНА аб парадку пагашэньня той часткі запазычанасьці, якая будзе прызнана зваротнай.

25. Запрапанаваць НКЗему распрацаваць і падаць на разгляд СНК праект

арганізацыі вопытна-паказальнага буйнага агра-індустрыяльнага камбінату. Праз месяц паведаміць СНК аб пляне арганізацыі гэтага камбінату, аб тэрытарыяльных пунктах яго арганізацыіі і тэрміны арганізацыі.

26. Запрапанаваць Навукова-Дасьледчаму Інстытуту Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя Леніна далажыць СНК аб прынятых ім мерапрыемствах па вывучэньню праблем буйнай абагуленай сельскай гаспадаркі, па пасьледваньню пытаньняў арганізацыі і тэхнікі саўгасаў БССР і ў паасобку пытаньняў навуковай арганізацыі працы.

27. Запрапанаваць Белсельтрэсту прыняць меры да ўзмацненьня сувязі саўгасаў з насельніцтвам з тым, каб саўгасы сапраўды сталі паказальнымі для сялянства.

28. Запрапанаваць Наркамзему распрацаваць сыстэму навуковага дагляду за саўгасамі па паасобных галінах сельскай гаспадаркі з боку Навукова-Дасьледчага Інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі і выкарыстаць шэраг саўгасаў для вопытна-дасьледчых мэтаў.

29. Запрапанаваць Белсельтрэсту ўжыць захады да найбольш рацыянальнай пастаноўкі гаспадаркі на лясных плошчах, якія належаць саўгасам.

30. Запрапанаваць НКГандлю, Белсельтрэсту і Белсельсаюзу ўжыць адпаведныя мерапрыемствы у арганізацыі збыту прадукцыі саўгасаў.

31. Запрапанаваць НКЗему і Белсельтрэсту ўжыць захады, каб для працы ў саўгасах было накіравана ня менш, як 10 новых адказных працаўнікоў, галоўным чынам спэцыялістаў.

32. Даручыць Наркамзему ў паўтарамесячны тэрмін падаць у СНК даклад аб становішчы і далейшай рабоце нетрэставаных савецкіх гаспадарак, вучэбных фэрм і інш., правёўшы некалькі выбарачных абсьледваньняў гэтых гаспадарак.

33. Даручыць НК РСІ у сваім пляне работ на 1929-30 г. прадугледзіць праверку выкананьня гэтай пастановы.

**Пратакольна**

1. Даручыць НКЗему распрацаваць пытаньне наконт павялічэньня плошчы двух-трох саўгасаў праз далучэньне да іх сялянскіх зямель і падаць адпаведныя матарыялы з прапановамі на разгляд СНК праз два месяцы.

2. Даручыць акруговым плянавым камісіям увязаць пляны паасобных саўгасаў з плянам сельскай гаспадаркі дадзенага раёну.

3. Запрапанаваць Дзяржпляну разам з НКЗ адзначыць назвы паасобных саўгасаў ў гэтай пастанове, ў якіх заўважаюцца больш буйныя недахопы.

Запрапанаваць Дзяржпляну дапоўніць гэтую пастанову пунктамі адносна сум сродкаў, уложаных у саўгасы і ацэнку эфэктыўнасьці гэтых сродкаў, а таксама адносна задач саўгасаў у сэнсе павялічэньня ўраджайнасьці і таварнай прадукцыі.

21 жніўня 1929 г.
№ 351.823.1-711-1722
г. Менск.

Сакратар СНК БССР **Л. Дубавіцкі**

## Цыркуляр № 47

**Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР за 28 чэрвеня 1929 г.**

*Усім Акрпракурорам і Старшыням Акруговых судоў.*

### Аб узмацненьні барацьбы з парушэньнем працоўнага законадаўства на вёсцы

Згодна дырэктыў вышэйшых партыйных і савецкіх органаў, ад пракуратуры і суду патрабуецца яшчэ больш рашучая барацьба з парушэньнем працоўнага законадаўства на вёсцы. Зьвесткі, якія маюцца ў НКЮ, гавораць аб тым, што не ва ўсіх мясцох гэта работа разгорнута дастаткова, між тым, як ва ўмовах вострай клясавай барацьбы, у выніках наступленьня сацыялістычнага сэктару, патрабуецца рашучая барацьба з парушэньнем працоўнага законадаўства на вёсцы.

Дзеля гатага Народны Камісарыят Юстыцыі ПРАПАНУЕ:

1. Акр. Пракуратуры зараз жа прыступіць да абследваньня працы сельгас. інспэкцыі працы з мэтай праверкі і дапамогі апошняй у рашучай барацьбе з праяўленьнем эксплёатацыі наймальнікамі працы на вёсцы, асабліва ў кулацкіх гаспадарках. Пры абсьледваньні неабходна зьвярнуць увагу на прыцягненьне да адказнасьці за выяўленыя скрытыя формы эксплёатацыі (прымачаства, падрадніцкі наём пастухоў, адработка за інвэнтар, эксплёатацыя падлеткаў і г. д.), а таксама на тэрміны праходжэньня гэтых спраў у органах дазнаньня, сьледзтва і суду.

2. Сыстэматычна інструктаваць сельгас інспэктароў і райупаўнаважаных па працы аб парадку вядзеньня дазнаньняў, з тым, каб матар'ялы дазнаньня былі-б больш поўныя і інспэктары працы поўнасьцю скарыстоўвалі свае правы як органы дазнаньня (па выкліку абвінавачаных асоб, сьведак, абраньню меры прасячэньня і г. д.).

3. Пры выездах неабходна абавязкова абследваць з гэтага боку работу сельсаветаў, прымкамісій і райупаўнаважаных па працы, асабліва зьвярнуўшы ўвагу на праверку дагавароў, якія рэгіструюцца ў сельсаветах і пры выяўленьні фіктыўных альбо кабальных, прыймаць адпаведныя меры да іх скасаваньня і прыцягненьня наймальнікаў да адказнасьці. У адносіне службовых асоб сельсавету прымаць дысцыплінарныя меры і прыцягваць іх да крымінальнай адказнасьці пры выяўленьні злоўжываньняў у галіне рэгістрацыі дагавароў.

4. Рашуча зьнішчыць недахопы, якія яшчэ існуюць пры разглядзе працоўных спраў у канфліктных органах (прымкамісіі) і судовых органах. Зацягваньне спраў у гэтых органах павінна быць катэгарычна зьнішчана і строга укладзена ў тыя тэрміны, якія дадзены законам і дырэктывамі НКЮ.

Віноўных у парушэньні гэтых тэрмінаў, калі гэта зацягваньне залежыць ад іх, прыцягваць да дысцыплінарнай або крымінальнай адказнасьці. (Пытаньне аб цьвёрдых тэрмінах разгляду канфліктаў—у бліжэйшы час будзе вырашана ў Наркампрацы СССР).

5. Пры абсьледваньні некаторых нарсудоў і працсэсій высьветлена, што суд, разглядаючы справу ў грамадзянскім парадку і выяўляючы парушэньне заканадаўства, апрача канфлікту, які ён разглядае, не прыцягвае віноўных да адказнасьці. Для зьнішчэньня гэтага прапануецца не абмяжоўвацца вырашэньнем справы толькі ў грамадзянскім парадку, але абавязкова выносіць азначэньні аб прыцягненьні віноўных у паказаных выпадках да крымінальнай адказнасьці.

6. Правесьці па 1-2 паказальных працэсаў у кожным раёне аб злосных парушыцелях заканадаўства працы, падрыхтаваўшы належныя справы пры удзеле грамадзкасьці з боку шырокіх колаў батрацтва і друку. На гэтых працэсах абавязковы ўдзел пракуратуры і грамадзкага абвінавайцы з боку саюзу сельгас і лесрабочых.

Наогул неабходна узмацніць меры сацыяльнай абароны супроць парушэньняў заканадаўства аб працы шляхам пазбаўленьня волі і накладаньня штрафаў на большыя сумы.

7. Неабходна скарыстаць маючыйся інстытут грамадзкіх абвінавайцаў для выступленьняў судох па працоўных батрацкіх справах, уцягнуўшы для гэтай мэты асоб з саміх батракоў. Для гэтага вучастковым пракурорам неабходна дагаварыцца з належнымі арганізацыямі аб вылучэньні неабходнай колькасьці батракоў і падрыхтоўкі іх з боку пракуратуры і суду.

8. Абавязкова прыцягваць для разгляду батрацкіх працоўных спраў у склад працсэсій нарсудоў у якасьці сяброў суду і засядацеляў-батракоў і для гэтага трэба таксама дагаварыцца з належнымі арганізацыямі аб вылучэньні іх і падрыхтоўкі на гэтай рабоце.

9. Больш прыцягваць для ўдзелу ў разглядзе спраў сельгасінспэкцыі працы і райупаўнаважаных для працы, дзеля чаго неабходна своечасова паведамляць іх аб часе разгляду спраў, як перададзеных у суд імі, так і больш значных і сур'ёзных спраў, якія паступілі ў суд непасрэдна.

Судовыя органы павінны даваць магчымасьць азнаямленьня сельгасінсцэкцыі працы са справамі ў судзе, як

ужо разгледжанымі, так і падлягаючымі разгляду.

10. Сумесна з акруговымі сельгасінспэкцыямі працы распрацаваць практычныя формы разгортваньня растлумачальнай працы сярод батрацтва з мэтай уцягненьня апошніх у барацьбу з парушэньнямі працоўнага законадаўства, выяўленьня і папярэджваньня гэтых парушэньняў.

Матар'лы, якія паступаюць у Пракуратуру ад Інспэкцыі Працы, аб выніках абсьледваньня прымкамісій пры райвыканкомах і сельсаветах неабходна распрацаваць у вучастковай або акруговай пракуратуры і зараз жа прыняць меры да зьнішчэньня выяўленых у актах недахопаў і да дапамогі інспэкцыі працы ў гэтым.

У мэтах зьнішчэньня паралелізму ў рабоце, неабходна ўсе пытаньні аб абсьледваньнях, інструктаваньнях прымкамер, нарсудоў і райупаўнаважаных, а таксама правядзеньня растлумачальнай працы ўзгадняць паміж вучастковымі пракурорам, нарсудом, сельгасінспэкцыяй працы і саюзам сельгас і лясных рабочых.

Усе гэтыя прапановы ня могуць вычэрпываць поўнасьцю ўсе мерапрыемствы, якія патрэбны ў гэтай галіне. Матар'ялы абсьледваньня непасрэдна акрпракурорамі, акрсудамі і вучастковай пракуратурай выявіць у кожным выпадку канкрэтныя прапановы, якія неабходна будзе зрабіць на месцы. Аб тых мерапрыемствах, у якіх патрабуецца дапамога цэнтральных установ, неабходна паведамляць НКЮ для прыняцьця адпаведных мер.

П. п. Чва Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **Гохман**

Пракурор па працоўных справах **Глезераў**

З арыгіналам згодна:
Кіраўнік Спраў ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых **Юшкевіч**

---

*Усім акраддзяленьням, рабачкомам і сельрабачкомам.*

ЦП Саюзу прапануя Вам тэрмінова перавесьці у ЦП Саюзу (бягучы рахунак у Усекабанку № 187) усе грошы сабраныя па саўгасам, лясьніцтвам і іншым прадпрыемствам—за працу 6-га жніўня і іншыя дні у к а р ы с ц ь д н ю і н д у с т р ы а л і з а ц ы і.

За Сакратара ЦП **А. Замылка.**
Кіраўнік Спраў **Ф. Юшкевіч.**

*Рэспубліканскім, краёвым, вобласным і губэрнскім камітэтам саюзу*

## А д б і т а к

### Аб скліканьні Усесаюзнай Вытворчай канфэрэнцыі па пытаньнях якасьці с.-г. машын.

25-X г. г. у г. Растове па ініцыятыве ЦК саюзу Сельгаслесрабочых і Мэталістых склікаецца ўсесаюзная вытворчая канфэрэнцыя заводаў с. г. машынабудаўніцтва сумесна з спажыўцамі па пытаньнях якасьці с. г. машын.

Абвестка для канфэрэнцыі вызначана наступная:

1. Пэрспэктывы машынізацыі сельскай гаспадаркі і якасьць с.-г. машын у сучасны момант.

Дакладчыкі: НКЗем РСФСР і УССР.

Садакладчыкі: а) Галоўмашбуд, б) Інстытут с.-г. мэханікі, в) Цукратрэст. г) Зернатрэст, д) Саўгасцэнтр, е) Калгасцэнтр і ж) МТС.

2. Пяцігадовы плян разьвіцьця с.-г. машынабудаўніцтва і работы с. г. машынабудаваньня за 1928 29 г. пяцігодкі.

Дакладчык: Галоўмашбуд.

Садакладчыкі: а) Стандартная Камісія НТУ ВСНГ, б) ЦК УСРМ.

3. Забесьпячэньне с. г. машынамі краіны.

Дакладчык: НКГандаль. СССР.

Садакладчыкі: а) Сельгасзабесьпячэньне, б) Сельскі Гаспадар.

4. Аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва.

Дакладчыкі: ЦК УСРМ і Сельгаслесрабочых.

Садакладчыкі: Галоўмашбуд і Зернатрэст.

З гэтае абвесткі дню відаць значэньне і задачы канфэрэнцыі.

Аб разверсцы месц на канфэрэнцыю па асобных саўгасах і аб парадку камандыраваньня прадстаўнікоў будзе паведамлена дадаткова ў бліжэйшы час.

Улічваючы вялізарнае значэньне гэтае канфэрэнцыі, ЦК саюзу лічыць неабходным шырокае ўцягненьне рабочых ўсіх саўгасаў у прапрацоўку пытаньняў, што стаяць на канфэрэнцыі. У гэтых мэтах неабходна:

1. Прапрацаваць пытаньні аб якасьці с. г. машын і іх недахопах на вытворчых нарадах, камісіях і асобных нарадах рабочых, работаючых на с. г. машынах.

2. У тых раёнах дзейнасьці саўгасаў, дзе маюцца заводы с. г. машынабудаваньня, арганізоўваць пасылку прадстаўнікаў саўгасаў на вытворчыя нарады гэтых заводаў з канкрэтнымі прапановамі па пытаньнях якасьці с. г. машын і запрашэньне прадстаўнікоў заводаў с. г. машынабудаваньня на вытворчыя нарады ў саўгасы.

3. Прапрацаваць пытаньні канфэрэнцыі на нарадах спэцыялістых.

4. Асьвятліць стаячыя на канфэрэнцыі пытаньні ў саюзным друку.

Усе матар'ялы прапрацоўкі выслаць у ЦК не пазьней 15 IX для іх абагульваньня да канфэрэнцыі. Намечаныя мясцовымі камітэтамі саюзу Сельгаслесрабочых практычныя мерапрыемствы неабходна ўзгадніць з месцовымі камітэтамі саюзу Мэталістых.

ЦК упэўнены, што саюзныя органы прымуць усе меры да масавага ўцягненьня рабочых саўгасаў у прапрацоўку пытаньняў, якія стаяць на гэтай канфэрэнцыі, маючай вялікае значэньня для работы саўгасаў.

Вык. абяв. Сэкратара ЦК—**А. Шарыпаў**

Нам. Заг. АТЭ ЦП—**Г. Жуйкоў**

З арыгіналам згодна: Кірсправу ЦП—**Юшкевіч**

***Усім Акрадзяленьням і рабачкомам саўгасаў***

Зьмяшчая ніжэй гэтага, абежнік ЦК н-саюзу аб скліканьні ўсесаюзнай вытворчай канферэнцыі па пытаньню якасьцІ с.г. машын і улічываючы важнасьць гэтага пытаньня, ЦП. саюзу прапануе ўсім Рабачкомам саўгасаў шырока абгаварыць гэта пытаньне і весь матар"ял накіраваць праз Акрадзяленьня ў Ц.П. саюзу, ня пазьней 25-го г-м.

Заг. АТЭ ЦП. **Эльперын.**

Кір. справу **Юшкевіч.**

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**
Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2345. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдому.